Пралятары ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАЎ І ЦЭНТРАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Выдаецца Кіраўніцтам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпіская плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VIII-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

| № 1 (123) | 20 сакавіка 1932 г. | № 1 (123) |
|---|---|---|

## ЗЬМЕСТ



## Пастановы Народнага Камісарыяту Камунальнай Гаспадарк БССР.

### 1. Пра парадак складаньня, разгляду і зацьверджаньня плянаў існуючага разьмяшчэньня і праектаў пляніроўкі гарадоў, мястэчак і рабочых пасёлкаў БССР.

(Выдаецца на падставе арт. 4 пастановы СНК БССР за 4 сьнежня 1931 г. „Пра плянаваньне гарадоў, мястэчак і рабочых пасёлкаў“- З. З. БССР 1931 г., № 51, паст. 289).

### I. Агульныя палажэньні.

1. Народны Камісарыят Камунальнай Гаспадаркі штогод, не пазьней 1 жніўня, агалашае агульны сьпіс гарадзкіх паселішчаў, у якіх павінна праводзіцца з'ёмка і пляніроўка.

2. У адпаведнасьці з публікуемым штогод сьпісам гарадзкіх паселішчаў, у якіх у наступаючым годзе будуць праводзіцца з'ёмка і пляніроўка, мясцовыя камунальныя органы ўносяць у свае каштарысы неабходныя для правядзеньня работ сумы і ўзьнімаюць хадайніцтва аб водпуску крэдытаў.

3. Пляніроўка распрацоўваецца і праводзіцца ў мэтах:

а) стварэньня найбольш спрыяючых умоў для эканамічнага і тэхнічнага росту гарадоў, мястэчак і рабочых пасёлкаў;

б) плянавага перабудаваньня на сацыялістычных падставах быту насельніцтва ў адпаведнасьці з эканамічнымі, тэхнічнымі і іншымі магчымасьцямі;

в) стварэньня адпаведных умоў для правільнага разьвіцьця і работы прамысловых, камунальных, транспартных і іншых прадпрыемстваў;

г) ажыцьцяўленьня сацыялістычных прынцыпаў культурнага, камунальнага, санітарна-гігіенічнага і грамадзка-бытавога абслугоўваньня насельніцтва;

д) найбольшага абзеляненьня гарадоў, мястэчак і рабочых пасёлкаў;

е) укараненьня ўсіх магчымых дасягненьняў тэхнікі ў канструкцыю гарадоў, мястэчак і рабочых пасёлкаў;

ж) архітэктурна-мастацкага афармленьня гарадоў, мястэчак і рабочых пасёлкаў.

4. Для дасягненьня паказаных мэт, праект пляніроўкі павінен ахапіць у пэрспэктыўным разьвіцьці праект перабудовы сядзібнай часткі і далейшага разьвіцьця і пашырэньня данага гораду, мястэчка альбо рабочага пасёлка.

## II. Зьёмка разьмяшчэньня гарадоў, мястэчак і рабочых пасёлкаў.

### 1. Падрыхтовачныя работы.

5. Да пачатку правядзеньня работ па з'ёмцы неабходна:

а) сабраць, разглядзець праз экспэртаў і аб'яднаць усе маючыяся пляны, а таксама іншыя графічныя і пісьмовыя з'ёмачныя матарыялы, якія могуць быць скарыстаны пры будучых работах па складаньні поўнага пляну існуючага разьмяшчэньня гораду (мястэчка, рабочага пасёлку);

б) высьвятліць, у якім становішчы знаходзяцца ў натуры геадэзычныя знакі, рэперы і маркі, і наколькі магчыма скарыстаць іх пры мяркуемых гарадзкіх з'ёмках;

в) выявіць мясцовыя ўмовы правядзеньня геадэзычных работ адносна рэльефу, перасечанасьці мясцовасьці, разьмяшчэньня мясцовых прадметаў, глебы, працягласьці сэзону палявых работ, наяўнасьці на месцы патрэбных матарыялаў і рабсілы;

г) скласьці схэматычны рысунак сядзібнай часткі гораду (мястэчка, рабочага пасёлку) і яго зямлі і вызначыць разьмяшчэньне базісу і трыганамэтрычнай сеткі, вызначыць лік і рост сыгналаў, апорных пунктаў, рэпераў і марак, даўжыню палігонамэтрычных і нівэлірных ходаў, прыблізную плошчу забудаваных зямель (сядзібную частку) і зямель сельска-гаспадарчага прызначэньня і нанесьці на схэматычным рысунку межы падлягаючых зьёмцы прастораў.

### 2. Правядзеньне зьёмкі.

6. У праграму палявых і камэральных работ для складаньня плянаў існуючага разьмяшчэньня гораду павінны ўключацца ўсе работы, якія патрэбны для памянёнай мэты, незалежна ад таго, ці мяркуецца іх выканаць у сучасны момант ці адкласьці на будучы час.

Калі ў даным горадзе яшчэ не праведзена інвэнтарызацыя маемасьцяў і рэгістрацыя зямель, то ў праграму работ павінны быць унесены таксама і тыя работы і пляны, якія патрэбны для правядзеньня інвэнтарызацыйных і рэгістрацыйных работ.

7. Апроч работ, якія патрэбны для складаньня плянаў, у праграму работ павінны быць уключаны работы па праверцы палявых і камэральных работ у працэсе правядзеньня іх, а таксама пры прыёмцы іх у канчатковым відзе.

8. У праграму работ патрэбна ўключыць:

а) пералік і апісаньне з'ёмачных работ з паказаньнем колькасьці і ступені дакладнасьці ў адпаведнасьці з патрабаваньнямі тэхнічных інструкцый і агульна-прынятых навуковых мэтадаў;

б) пералік розных умоў утвораных знакаў, апорных пунктаў, рэпераў і марак з апісаньнем іх пабудовы, паводле тэхнічных інструкцый і ў адпаведнасьці з мясцовымі ўмовамі;

в) пералік плянаў, профіляў, схэм, рысункаў, сьпісаў і іншых дакумантаў, якія павінны атрымацца ў выніку праектуемых работ з паказаньнем ступені іх дакладнасьці паводле тэхнічных інструкцый.

9. У пляне работ трэба паказаць:

а) разьмеркаваньне работ па паасобных відах, паступовасьці выкананьня і гадох (тэрміны пачатку і сканчэньня);

б) час і арганізацыю праверкі і прыёмкі выкананых работ;

в) неабходную колькасьць тэхнічных інструмэнтаў і тэхнічных сіл для палявых і камэральных работ у адпаведнасьці з патрабаваньнямі тэхнічнай інструкцыі па з'ёмцы;

г) вылічэньне колькасьці матарыялаў, патрэбных для правядзеньня работ.

10. У адпаведнасьці з выпрацаванай праграмай і плянам работ складаецца каштарыс кошту работ.

11. Распрацаваныя праграмы, пляны і каштарысы пасьля заключэньня адпаведнага Гарсавету ці РВК зацьвярджаюцца НККГ.

### 3. Складаньне пляну існуючага разьмяшчэньня гораду, мястэчка альбо рабочага пасёлку.

#### А. Зьмест плянаў.

12. Плян існуючага разьмяшчэньня гораду, мястэчка альбо рабочага пасёлку павінен заключаць:

а) вызначэньне агульнай зямельнай плошчы з рэзэрвам зямель, неабходных для яго пашырэньня, і вызначэньне яго сяліцебнай плошчы;

б) існуючае разьмяшчэньне з паказаньнем праектных (чырвоных) ліній як на існуючых кварталах, таксама і на новых частках;

в) існуючую схэму дарожных сетак як для ўнутраных зносін сяліцебнай часткі, так і для зносін з навакольнымі мясцовасьцямі;

г) існуючую схэму водазабясьпечаньня, сыстэму сьцёчных вод і мэліарацыі і патрэбных для гэтага зямель, месцы навакол водаснабжэньня, як зона аховы крыніц водазабясьпечаньня ад забруджваньня;

д) існуючую схэму чыгуначных і водных шляхоў;

е) існуючую схэму зялёных пляцоў унутры сяліцебнай часткі і забараняльных зон вакол сяліцебнай часткі.

## Б. Складаньне агульнага пляну існуючага разьмяшчэньня.

13. Для складаньня плянаў патрэбны наступныя работы:

а) утварэньне гарызантальнай і вэртыкальнай зьёмкі тэрыторыі гарадзкой мяжы, з складаньнем, у патрэбных выпадках, трыганамэтрычнай і палігонамэтрычнай сетак, пастаноўка апорных пунктаў і рэпераў;

б) утварэньне дэталёвай зьёмкі праездаў, пляцоў, узьбярэжных і іншых;

в) зьёмка незабудаваных зямель,

г) складаньне агульных зборных плянаў у дробным маштабе і дэталёвых плянаў у павялічаным маштабе;

д) складаньне ў патрэбных выпадках профіляў праездаў і жывых сячэньняў рэк.

Увага. У мэтах інвэнтарызацыі і рэгістрацыі зямель утвараецца таксама ўнутрыквартальная зьёмка. Работы гэтай катэгорыі ўтвараюцца паводле асобнай інструкцыі.

14. Агульны плян складаецца ў маштабе 1 : 5000 і на ім трэба паказваць:

а) гарадзкую мяжу, устаноўленую земляўпарадчым парадкам,

б) сумежныя з гарадзкой мяжой землі, якія па праекту пляніроўкі павінны быць далучаны да гарадзкой мяжы,

в) забудованую сяліцебную частку з наступнымі падрабязнасьцямі:

1) граніцы існуючых кварталаў (фасадная лінія), пачаткі і канцы домаўладаньняў,

2) платы з падразьдзяленьнем на каменныя, паўкаменныя і драўляныя,

3) брандмаўэры,

4) нежылыя будынкі, калі яны выходзяць на вуліцу,

5) пачатак і канец кожнага двара,

6) сады і палісаднікі, сквэры, бульвары,

6) канавы на вуліцах,

7) адзеньне вуліц (незабрукаваная і матарыял брукоўкі),

8) помнікі, басэйны,

9) лінія трамваю,

г) землі сельска-гаспадарчага прызначэньня ў па-за сяліцебнай часткі з паказаньнем граніц паасобных ужыткаў, а іменна:

1) пахаці з характарыстыкай глебы,

2) гародаў, пасьбішч з паказаньнем: „добры“, „сярэдні“ „дрэнны“, „сухі“, „мокры“,

3) лугі залужаныя, сухадольныя, балотна-тарпяныя, махавыя, пакосныя і інш.;

4) лясы з паказаньнем пераважнай пароды і ўзросту насаджэньняў;

5) сады з падзяленьнем на пладавыя, ягадныя і інш.,

6) пітомнікі;

7) пустыры,

д) усе тапаграфічныя асаблівасьці мясцовасьці: равы, рэкі, вазёры, ручаі, пруды, часткі сумежных вялікіх водных басэйнаў, горы і г. д.,

е) гарызонт высокіх і межавых вод, лініі разьліву вод;

ж) розныя паасобныя штучныя пабудовы і будынкі, як: масты шлюзы, плаціны, узьбярэжныя, дарогі, млыны, заводы, фабрыкі, каменаломні, кар‘еры, прыстані, станцыі, грамадзкія будынкі, пал, абвадненьня, асенізацыйныя паркі, могільнікі і іншыя падрабязнасьці, якія мэтазгодна будзе нанесьці на плян.

Увага. Будынкі і пабудовы паказваюцца асобна: мураваныя, драўляныя і мяшаныя.

15. З левага боку на пляне разьмяшчаецца апісаньне сумежных з гарадзкой мяжой землякарыстаньняў; з правага боку эксплікацыя— табліца з колькасьцю га паказаных у пляне зямель:

а) сяліцебнай, б) сельска-гаспадарчага значэньня, в) пад вадою і г) якія праектуюцца для ўключэньня ў гарадзкую мяжу.

16. Да агульнага пляну гораду (мястэчка, рабочага пасёлку) дадаецца:

а) сьпіс каардынат усіх зробленых у горадзе пунктаў трыганамэтрычнай і паліганамэтрычнай сетак і зьёмачных ходаў;

б) сьпіс адзнакаў марак прэцызыоннага і тэхнічнага ніveліраваньня;

в) сьпісы назваў вуліц, праездаў, завулкаў, плянаў грамадзкіх і дзяржаўных будынкаў, з паказаньнем арыгінальных плянаў, у якіх яны адзначаны, а таксама паказаньні, на якім іменна рысунку профіляў адзначаны профіль данай вуліцы, завулку, пляцу;

г) сьпіс усіх уладаньняў з паказаньнем іх плошчаў і плошчаў ужыткаў, якія ўваходзяць у склад уладаньняў.

Увага. Падрабязны пералік плошчаў паасобных сядзіб з паказаньнем іх будынкаў, двароў і інш. падрабязнасьцяў паказваецца ў паасобнай ведамасьці, якая дадаецца да рэгістрацыйнага пляну; плян гэты складаецца на падставе спэцыяльных інструкцый.

### В. Складаньне дэталёвых плянаў.

17. Дэталёвыя пляны складаюцца з раённых плянаў гарадоў, г. зн., з плянаў гарадзкіх кварталаў у маштабе 1:1000, альбо 1:2000 і плянаў праездаў, вуліц і узьбярэжжаў у маштабе 1:5000.

18. На плянах гарадзкіх кварталаў паказваецца, апроч таго што пералічана у арт. 14, п. „в“, таксама ўваходы ва ўладаньні,

паасобныя дрэвы на вуліцах, тратуары, каналізацыйныя студні, грамадзкія прыбіральні, ліхтары для асьвятленьня, тэлеграфныя і тэлефонныя слупы, вадапрододныя краны, нівелірныя і палігонамэтрычныя рэперы і маркі, восіпрадольнага нівеліраваньня.

Увага. Калі ў даным горадзе праводзіцца інвэнтырызацыя зямель, на пляне гарадзкіх кварталаў паказваюцца апроч пералічанага вышэй: граніцы паасобных уладаньняў з паказаньнем, з якіх матарыялаў зроблены гаражы, двары, будынкі жылыя і няжылыя, сады, гароды і студні.

19. На пляне праездаў, вуліц і ўзбярэжных, у маштабе 1:500, наносіцца абодвы бакі праезду, вуліцы альбо узьбярэжжа, з адзначэньнем усіх жылых і няжылых будынкаў, якія выходзяць на вуліцы, альбо праезды, пачаткі і канцы паасобных уладаньняў, а таксама ўсе падрабязнасьці, якія пералічаны ў арт. арт.14 і 18.

Увага. Акрамя плянаў, паказаных у папярэдніх артыкулах, у патрэбных выпадках складаюцца таксама і профілі неабходных вуліц і паасобных прадольных і папярэчных напрамкаў.

### Г. Агульныя заўвагі.

20. Маштаб профіляў для гарызантальных адлегласьцяй павінен быць такі-ж, як для плянаў кварталаў, а для вэртыкальных—у 10 разоў буйнейшы.

На профілях у адпаведных мясцох паказваюцца №№ тых пляншэтаў кварталаў вуліц, на якія складаюцца профілі. На плянах кварталаў адзначаюцца №№ адпаведных профіляў і паказваюцца восі нівэліраваньня.

На профілях паказваюцца маркі і рэперы, прадольныя профілі зямной паверхні, а таксама сячэньні рэк, канаў і прыбярэжных частак буйных водных басэйнаў, гарызонты высокіх і нізкіх вод.

Увага. Нівэліроўка вуліц, праездаў, завулкаў і паасобных напрамкаў робіцца абавязкова з заходам у двары і іншыя вучасткі, якія маюць ухілы, для атрыманьня належных адзнак. Гэтыя адзнакі паказваюцца па плянах кварталаў у адпаведных мясцох.

21. Арыгінальныя пляны не ілюмінуюцца, ілюміноўка робіцца на копіях альбо кальках.

22. Пакуль ня будзе выдадзена тэхнічная інструкцыя, зьёмачныя і нівэліровачныя работы ўтвараюцца агульна прынятымі мэтадамі і спосабамі; як прыклад, можа ўжывацца тэхнічная інструкцыя па зьёмцы і нівэліроўцы гарадоў, зацьверджаная Вышэйшай Гэадэзычнай Управай 18 чэрвеня 1923 г.

### IV. Парадак праверкі і прыёмкі зьёмачных работ.

23. Нагляд за правядзеньнем геадэзычных работ ускладаецца на органы камунальнай гаспадаркі. Парадак прыёмкі і зьвязаных з ёю тэхнічных дзеяньняў устанаўляецца органамі камунальнай гаспадаркі і ўзгадняецца з НККГ БССР.

24. Работы па зьёмцы павінны правярацца з натуры як у працэсе выкананьня, так і пры сканчэньні іх.

Вынікі праверак, арыгінальныя запісыназіраньняў і вымяраньняў, абрысы, праверачныя вылічэньні павінны падпісвацца асобай. якая рабіла праверку, а таксама адказнымі за зьёмку асобамі, якія выконваюць самыя работы.

Аб праверцы складаецца акт.

25. Пасьля сканчэньня работ і складаньня плянаў, органы камунальнай гаспадаркі павінны зрабіць тэхнічную прыёмку выкананых работ.

Прыёмка можа таксама рабіцца і па паасобных частках, але абавязкова ў скончаным відзе, з пастаноўкай на месцы геадэзычных знакаў (рэпераў альбо марак) з складаньнем неабходных для праверкі пісьмовых і графічных матарыялаў.

26. Для прыёмкі работ органамі камунальнай гаспадаркі складаецца камісія:

а) з прадстаўніка камунальнай гаспадаркі,

б) аднаго альбо двух спэцыялістаў—гэадэзыстаў (з сталага складу, альбо па асобаму запрашэньню),

в), прадстаўнікоў шляхоў зносін і ваеннага ведамства у тых выпадках, калі ў пляны ўключаны землі памянёных ведамстваў.

Прыёмка работ робіцца ў прысутнасьці адказнай асобы, якая выконвае зьёмачныя работы.

27. Пры прыёмцы работ складаецца акт з падрабязным апісаньнем зробленых пры гэтым тэхнічных дзеяньняў. Да акту дадаюцца тэхнічныя дакуманты праверак з паказаньнем розьніцы ў тэхнічных даных.

Акт і дакуманты праверак падпісваюцца членамі прыёмачнай камісіі і адказнымі за зьёмку асобамі, якія выконвалі работы.

23. Пасьля сканчэньня прыёмкі камісія складае заключэньне аб правільнасьці ўтвораных работ і выкананьні умоў дагавору. У залежнасьці ад заключэньня камісіі работы лічацца альбо прынятымі альбо патрабуючымі выпраўленьняў і дапаўненьняў.

29. Пасьля прыёмкі работ усе арыгінальныя пляны і рысункі з усімі матарыяламі і абрысамі, вылічальнымі і іншымі ведамасьцямі, сьпісамі, праверачнымі дакумэнтамі і прыёмачнымі актамі, падаюцца на заключэньне гарсавету альбо РВК па належнасьці і пасылаюцца на зацьверджаньне Народнаму Камісарыяту Камунальнай Гаспадарк БССР.

Пасьля зацьверджаньня ўсе пералічаныя дакуманты перадаюцца ў органы камунальнай гаспадаркі на хаваньне.

### V. Хаваньне і папаўненьне плянаў.

30. Арыгінальныя пляны з усімі дадаткамі і матарыяламі хаваюцца ў архівах камунальнай гаспадаркі з асаблівай пільнасьцю, якая павінна забясьпечыць гэтыя дакуманты ад псаваньня і пашкоджаньня.

У в а г а. Для патрэб гарадзкой гаспадаркі пры распрацоўцы праекту розных гарадзкіх пабудоў, мерапрыемстваў па дабрабыту, праектаў пляніроўкі, рэгуляваньня забудоўкі і іншых мэт, з плянаў павінны быць зьняты копіі, завераныя належным парадкам.

31. Органы камунальнай гаспадаркі абавязаны падтрымліваць пляны шляхм правядзеньня дапаўніцельных зьёмачных і нівелірных работ і нанясеньня ўсіх засьнятых зьмен і дапаўненьняў на існуючыя пляны ў адпаведнасьці з сапраўдным становішчам гораду.

32. Дапаўніцельныя зьёмкі ўтвараюцца ў тым жа маштабе і з той жа дакладнасьцю, як і асноўны плян. Пасьля праверкі на засьнятыя зьмены і дапаўненьні складаюцца пляны, пасьля чаго гэтыя зьмены наносяцца на копіі асноўных гарадзкіх плянаў, з адзначэньнем часу (даты) правядзеньня зьмены і таго, з, якой прычыны зроблена зьмена. На оргінальным пляне ў адпаведным месцы робіцца адзнака аб новых вымяраньнях і зьменах шляхам пастаноўкі на зьмененым месцы нумароў і тлумачэньня пад гэтымі нумарамі ў асобнай ведамасьці; да агульнага арыгінальнага пляну прыкладаюцца арыгінальныя пляны на зьмененыя вучасткі, з якіх зьнімаецца адпаведная колькасьць копій. Арыгінальныя пляны зьмененых вучасткаў таксама хаваюцца ў архіве органу камунальнай гаспадаркі.

## III. Пляніроўка гарадоў, мястэчак і рабочых пасёлкаў.

33. Праект пляніроўкі зьяўляецца асноўным праектам упарадкаваньня данага гораду, мястэчка альбо рабочага пасёлку і, у залежнасьці ад мясцовых умоў, павінен мець наступнае:

**Асноўныя прадпасылкі:**

а) Будучае разьмяшчэньне гораду і пашырэньне яго сядзібнай часткі,

б) характар забудоўкі ў паасобных раёнах,

в) разьмяшчэньне адміністрацыйных, культурна-асьветных, грамадзкіх і прамысловых прадпрыемстваў,

г) разьмяшчэньне і ўпарадкаваньне межаў вадазабясьпечаньнх, зялёных насаджэньняў, звалак, могільнікаў і інш.,

д) упарадкаваньне шляхоў зносін,

е) мерапрыемствы для аховы і далейшага разьвіцьця прыродных даных мясцовасьці, якая акружае горад (лясоў, паляўніцкіх месц, водных басэйнаў і інш.), якія дапамагаюць утварэньню спрыяючых умоў для адпачынку ў мэтах пабудовы дачных паселішчаў,

ж) утварэньне спрыяючых умоў для дзейнайсьці лекава-санітарных установ, санаторый, дамоў адпачынку і ўстанаўленьне для іх зон санітарнай аховы,

з) скарыстаньне сельска-гаспадарчых ужыткаў, якія ўваходзяць у гарадзкую мяжу, у мэтах утварэньня каляктыўных гаспадарак для разьвіцьця гародніцтва і малочнай гаспадаркі,

і) ахова маючыхся заказьнікаў і мастацкіх помнікаў,

к) утварэньне найбольш спрыяючых умоў для абароны.

### Падрыхтоўчыя работы для складаньня праекту пляніроўкі.

34. Падрыхтоўчыя работы складаюцца з наступных частак:

1) Папярэдні выраб гэадэзычнага пляну існуючага гораду, мястэчка альбо рабочага пасёлку,

2) Эканамічна-тэхнічнае і санітарнае вывучэньне гораду, мястэчка альбо рабочага пасёлку.

### I. Складаньне гэадэзычнага пляну.

35. Гэадэзычны плян існуючага разьмяшчэньня гораду (мястэчка, рабочага пасёлку) складаецца паводле інструкцыі аб зьёмцы гарадоў, мястэчак і рабочых пасёлкаў і павінен мець наступныя пляны:

а) агульны плян гораду альбо мястэчка (маштаб 1:5000),

б) пляны гарадзкіх кварталаў (1:1000, ці 1:2000),

в) плян праездаў, вуліц, узьбярэжжаў (1:500).

36. У залежнасьці ад мясцовых умоў і патрабаваньняў асноўных заданьняў, для праектаў пляніроўкі, асабліва для раённай пляніроўкі, могуць складацца яшчэ наступныя паасобныя пляны:

а) плян—графік інтэнсыўнасьці руху (1:25000); сетка гарадзкіх шляхоў зносін наносіцца на гэты плян лініямі рознай таўшчыні, прапарцыянальна колькасьці перавезеных ў вядомы тэрмін (1 год) пасажыраў і цяжараў;

б) плян гарадзкіх шляхоў зносін (1:1000); на гэты плян наносяцца ліні чыгункі, трамваю, аўтобусу і інш., вакзалы, станцыі, астаноўкі трамваю, аўтобусу і параходаў, паштовыя ўстановы, міліцэйскія аддзяленьні і пасты;

в) плян разьмяшчэньня прамысловых прадпрыемстваў (1:10000). Паасобныя прамысловыя прадпрыемствы паказваюцца на пляне адзнакамі рознай формы і велічыні, у залежнасьці ад роду вытворчасьці і колькасьці рабочых;

г) картаграма шчыльнасьці гарадзкога насельніцтва (1:10000) Гэты плян зьяўляецца падставай для праектаваньня ў тым ці іншым раёне гораду вольных пляцоў для зялёных насаджэньняў. пляцовак для гульняў і г. д.;

д) плян вольных пляцоў (1:25000);

На гэты плян наносяцца: пустыры, пляцы, водныя прасторы;

е) плян зялёных насаджэньняў (1:10000);

Наносяцца сады, паркі, бульвары, алеі, пляцоўкі для спорту гульняў, а таксама і грамадзкія будынкі, якія абслугоўваюць мэты аховы здароўя і асьветы і павінны разьмяшчацца у здаровай і пакойнай мясцовасьці (больніцы, школы, бібліятэкі і г. д.);

ж) карта глебы (1:25000).

Даецца агляд рознага складу глебы гарадзкой тэрытоыі для выяўленьня прыгоднасьці паасобных вучасткаў для мэт будаўніцтва, зялёных насаджэньняў, сельска-гаспадарчых і г. д.

з) картаграма інтэнсыўнасьці забудоўкі (як у гарызынтальным, так і ў вэртыкальным напрамаках, маштаб 1:25000) складаецца ў мэтах выяўленьня жыльлёвых умоў насельніцтва;

і) карта грамадзкага жыцьця данага гораду (1:5000).

На гэтым пляне наносяцца ўсе грамадзкія будынкі і ўстановы, маючыя значэньне для грамадзкага жыцьця: цэнтральныя і мясцовыя ўрадавыя і камунальныя ўстановы, гаспадарчыя і фінансавыя ўстановы, прафэсіянальныя арганізацыі, культурна-асьветныя ўстановы і г. д.

## II. Эканамічна-тэхнічнае і санітарнае вывучэньне.

37. Эканамічна-тэхнічнае і санітарнае вывучэньне гораду (мястэчка, рабочага пасёлку) пры распрацоўцы праектаў пляніроўкі, мае сваёй мэтай:

а) зьбіраньне абгрунтаваных даных, якія патрэбны для распрацоўкі асноўных заданьняў па складаньні праекту пляніроўкі,

б) высьвятленьне злучнасьці умоў, пры якіх праект будзе ажыцьцяўляцца.

38. Эканамічна-тэхнічнае і санітарнае вывучэньне гораду (мястэчка, рабочага пасёлку) складаецца па наступнай асноўнай праграме:

### А. Гістарычнае мінулае:

Агульна-гістарычны агляд узьнікальня гораду (мястэчка, раённага пасёлку) і разьвіцьця яго ў адносінах эканамічнай, адміністрацыйнай, вайсковай і г. д.

### Б. Эканамічна-бытавыя ўмовы:

а) Прамысловасьць розных відаў, уплыў яе нарост і разьвіцьцё гораду;

б) сельская, мясцовая гаспадарка краіны, гораду, іх уплыў на разьвіцьцё гораду;

в) гандаль, яго уплыў на будаўніцтва гораду;

г) транспарт і сродкі сувязі ўнутры гораду і ў прылягаючым да гораду раёне, іх становішча і пэрспэктывы, разьвіцьцё і ўплыў на санітарнае становішба гораду (шум, забруджаньне, пыл, газы, страсаньне і інш.);

д) электрыфікацыя гораду і раёну, іх уплыў на будаўніцтва гораду;

е) будаўнічыя матарыялы у акрузе, іх уплыў на будаўніцтва гораду;

ж) гарадзкі бюджэт, яго становішча і дынаміка, яго адбітак у бюджэце будаўніцтва і дабрабыту гораду;

з) адміністрацыйнае значэньне гораду і ўплыў яго на лад і разьвіцьцё гораду;

к) помнікі старажытнасьці і іх значэньне для ладу гораду;

л) грамадзка-палітычнае жыцьцё гораду, яго ўплыу на лад гораду;

м) характарыстыка гораду, як адміністрацыйнага і культурнага цэнтру ў сучасны момант і пэрспектывы ў будучым;

н) характарыстыка гораду, як эканамічнага і вытворчага цэнтру ў сучасны момант і пэрспэктывы яго ў далейшым разьвіцьці.

В. Статыстычныя матарыялы:

а) Насяленьне гораду, колькасьць і рост насельніцтва яго сацыяльны склад;

б) жыльлёвыя пытаньні: статыка і дынаміка за бліжэйшы мінулы час, пэрспэктывы у будычым;

в) забудоўка гораду: падзяленьне гораду на раёны, характарыстыка забудоўкі па раёнах і іншых адзінках; тыпы жылішч і грамадзкіх будынкаў;

г) гарымасьць гораду, яе прычыны і ўплыў яе на пляніроўку;

д) характарыстыка гораду як населенага пункту для сучаснага моманту і пэрспэктывы ў будучым.

Г. Абсьледваньне тапаграфічнага характару:

а) Уплыў геаграфічнага і тапаграфічнага разьмяшчэньня гораду на яго лад і дабрабыт;

б) араграфія, гідраграфія і гэалёгія гораду і прылягаючага раёну, уплыў іх на дабрабыт гораду, балоты і забалочаныя месцы, іх характар, разьмер і іх адлегласьць ад населеных частак гораду і месцазнаходжаньне адносна пануючых ветраў;

в) зоны аховы вады, паветра і глебы, прыродныя межы разьвіцьця гораду, іх характарыстыка і разьмяшчэньне;

г) клімат, расьліннасьць прылягаючага раёну, уплыў іх на дабрабыт і разьмяшчэньне гораду, роды ветраў, характарыстыка пануючых ветраў, іх уплыў на горад;

д) агульны агляд уплыву прыродных умоў на ўзьнікненьне і разьвіцьцё гораду.

Д. Абсьледваньне санітарна-гігіенічнага характару:

а) Санітарная характарыстыка месца разьмяшчэньня гораду і ваколіц;

б) існуючыя зялёныя насаджэньні і масывы на тэрыторыі гораду і ваколіцах, род расьліннасьці і ацэнка з санітарнага боку;

в) санітарная ацэнка вадаёмаў і іншых крыніц вадазабясьпечаньня;

г) разьмяшчэньне фізкультурных і спартыўных пабудоў, іх становішча і радыус абслугоўваньня;

д) дабрабыт гораду і яго ацэнка ў санітарных адносінах, агульнае вадазабясьпечаньне гораду, санітарная ачыстка гораду, санітарна-тэхнічны лад камунальнага дабрабыту і агульна-знадворнага дабрабыту гораду;

е) санітарнае становішча жылішч сталых і сэзонных, інтэрнатаў, будынкаў грамадзкага карыстаньня, спэцыяльнага прызначэньня і г.д.

ж) санітарна-прафіляктычныя і лекавыя ўстановы, іх месцазнаходжаньне, узаемная сувязь, санітарна-тэхнічнае абслугоўваньне, вадазабясьпечаньне, вываз нячыстот і адыходаў, зялёныя насаджэньні і г. д., радыус абслугоўваньня і катэгорыі хворых, якія карыстаюцца санітарнымі ўстановамі, абслугоўваньне і лекава-гаспадарчая арганізацыя ўстаноў, пэрспэктывы іх далейшага разьвіцьця;

з) захвараваемасьць і сьмяротнасьць сталага і часовага насельніцтва, іх залежнасьць паміж сабой, іх адносіны да сэзонаў году, мэтааралёгічных і кліматычных умоў, заразная захварваемасьць, эпідэміі, іх частата, прычыны ўзьнікнавеньня, шляхі і раёны распаўсюджваньня, сэзоны году, працягласьць і іншыя даныя, якія паказваюць неўпарадкаванасьць данага гораду у цэлым і па паасобных яго раёнах і прычыны неўпарадкаванасьці.

і) уплыў прамысловасьці на даны населены пункт;

к) агульная характарыстыка гораду ў санітарна-гігіенічных адносінах.

Е. Абсьледваньне ў мэтах абароны:

Праграма гэтага абсьледваньня, як маючага сакрэтны характар складаецца ваенведам, і на падставе гэтага абсьледваньня, ваенведам даюцца асноўныя заданьні, якія прымаюцца пад увагу для адводу належных земельных тэрыторый пры складаньні праекту пляніроўкі гораду.

Ж. Заключэньне:

а) Агульная сацыяльна-эканамічная характарыстыка гораду;

б) характырыстыка гораду, як адзінай тэхнічнай будовы;

в) пэрспэктывы разьвіцьця гораду і прылягаючага раёну,

39. Вынікі абсьледваньня і вывучэньня гораду (мястэчкі, рабочага пасёлку) пасьля адпаведнай апрацоўкі і сыстэматызацыі іх, выкладваюцца ў асобнай запісцы, да якой дадаецца паясьняльны матарыял (дыаграмы, картаграмы, фатаграфічныя здымкі і г. д.)

**Складаньне праекту пляніроўкі гораду, мястэчка або рабочага пасёлка.**

## I. Асноўныя заданьні для праекту пляніроўкі.

40. На падставе паказанага вышэй абсьледваньня і вывучэньня гораду, выпрацоўваюцца асноўныя заданьні для складаньня праекту яго пляніроўкі, якія павінны зьмяшчаць наступныя даныя:

А. Асноўныя заданьні агульнага характару:

а) Натуральны і мэханічны рост насельніцтва сталага і часовага па катэгорыях;

б) існуючая норма жылой плошчы і пэрспэктывы яе росту;

в) чарговасьць пашырэньня гарадзкой тэрыторыі і ўключэньня ў яе сумежных земляў гарадзкая мяжя па пэрыядах;

г) магчымасьць аб'яднаньня гораду з навакольнымі паселішчамі і прамысловымі прадпрыемствамі ў адзін праект пляніроўкі;

д) праектныя зьмены адміністрацыйнага характару;

е) тэрмін, на які складаецца праект пляніроўкі.

Б. Пералік асноўных будынкаў, якія павінны быць пабудаваны

а) Эканамічна-вытворчага характару:

1) новыя фабрычна-заводзкія прадпрыемствы дзяржаўнага значэньня, а таксама тыя з іх, якія капітальна перабудоўваюцца і перабсталёўваюцца;

2) значныя будынкі транспарту, чыгункі, веткі, станцыі, рачныя парты, узьбярэжжы, прыстані, аўта-гужавыя майстэрні, гаражы, вялікія масты і віадукі;

3) раённыя электрастанцыі;

4) склады, гандлёвыя ўстановы дзяржаўнага значэньня: элеватары, склады экспартных тавараў, халадзільнікі і інш.;

5) пабудовы сувязі дзяржаўнага значэньня, радыёстанцыі, узлавыя тэлеграфныя станцыі і г. д.

б) Адміністрацыйнага і культурнага значэньня:

1) урадавыя ўстановы дзяржаўнага значэньня;

2) вучэбныя і культурна-асьветныя ўстановы дзяржаўнага значэньня;

3) лекавыя ўстановы дзяржаунага значэньня;

4) помнікі і манумэнты народнага значэньня.

в) Асобнага значэньня:

1) пабудовы па ўмацаваньні берагоў рэк, мерапрыемствы па асушцы і іншыя мэліарацыйныя работы і г. д.;

Увага. Па кожнай з праектуемых асноўных пабудоў павінны быць дадзены наступныя зьвесткі:

а) разьмер пабудовы,

б) разьмер зямельных вучасткаў, патрэбных для пабудоў,

в) асобныя патрабаваньні для вучасткаў, (напрыклад: у абараняльньяй ці у забараняльньяй зоне, на беразе ракі і інш.),

г) колькасьць цяжараў (апалу, сыравіны, прадукцыі), якія патрэбна транспартаваць для абслугоўваньня праектуемай пабудовы,

д) ці ёсьць патрэбнасьць у пад'ездных шляхох і пабудовах,

е) колькасьць рабочых і служачых, патрэбных для абслугоўваньня пабудовы,

ж) арыентыровачныя тэрміны для пабудаваньня.

В. Пералік будынкаў, прадпрыемстваў, устаноў і рознага абслугоўваньня, якія павінны быць пабудаваны для абслугоўваньня гораду (мястэчка, рабочага пасёлку)

а) Эканамічна-вытворчага значэньня:

1) фабрычна-заводзкія прадпрыемствы мясцовага значэньня, якія павінны быць пабудаваны з утварэньнем новых прамысловых раёнаў,

2) транспартныя пабудовы мясцовага значэньня: трамваі, гарадзкія масты, лініі і станцыі прыгарадных зносін, рачныя паромы і інш.,

3) гандлёвыя пляцы, рынкі, склады мясцовага значэньня,
4) гарадзкія электрычныя станцыі,
5) гарадзкія тэлефонныя станцыі.

**б) Адміністрацыйнага і культурна-асьветнага значэньня і для аховы здароў'я:**

1) урадавыя ўстановы мясцовага значэньня,
2) вучэбныя ўстановы і культурна-асьветныя ўстановы мясцовага значэньня,
3) лекавыя і санітарна-прафіляктычныя ўстановы мясцовага значэньня.

**в) Пабудовы камунальнага дабрабыту і жыльлёвага будаўніцтва:**

1) жылыя раёны і кварталы,
2) камунальныя дамы і гасьцініцы.
3) вадаправод, каналізацыя, лазьні, пральні, жывёла-бойні, газавыя заводы, фабрыкі-кухні, малочныя і г. д.,
4) узьбярэжжы капітальнага характару,
5) зялёныя насаджэньні: паркі, сады, бульвары, сквэры і інш.

*Увага.* Па кожнай з праектуемых пабудоў, абслугоўваючых горад, у асноўных заданьнях павінен быць паказан тэрмін, у які яна павінна быць пабудавана адпаведна з ростам і разьвіцьцём гораду.

41. Да асноўных заданьняў павінны быць прыкладзены графічныя матарыялы, схэмы, пляны, картаграмы, здымкі і інш.

## II. Асноўныя ўстаноўкі пры складаньні праектаў пляніроўкі.

42. У аснову кожнага праекту пляніроўкі павінны быць пакладзены наступныя галоўныя ўстаноўкі:

А) Прырост насельніцтва:

У суадносінах з павялічэньнем колькасьці насельніцтва павінны праектавацца мерапрыемствы па ахове здароў'я насельніцтва, пабудове жылішч, утварэньні выгад для жыцьця і ўстанаўленьня бясьпекі.

Б) Вулічны рух:

Мерапрыемствы для вольнага і выгаднага руху, забясьпечваючага разьвіцьцё гаспадарчага жыцьця, зьнішчэньне перашкод для руху, арганізацыя найбольшай бясьпекі руху, забясьпечаньне дастатковай хуткасьці і дасягненьне найбольшай прапускной здольнасьці вулічнай сеткі.

В) Скарыстаньне зямлі:

Узаемнае выгаднае разьмяшчэньне месц жыцьця і месц работы з мэтай зьмяншэньня паездак рабочага насельніцтва.

Г. Разьмяшчэньне прамысловых прадпрыемстваў:

Прадпрыемствы індустрыі разьмяшчаюцца ў выгаднай сувязі з чыгуначнымі і воднымі шляхамі.

Прадпрыемствы, маючыя патрэбнасьць у вадзе,—каля моцных крыніц вады, цаментныя і цагельныя заводы—каля месц выкапняў.

Прадпрыемствы, патрабуючыя прыроднага асьвятленьня, павінны мець вакол сябе вольныя зямельныя прасторы.

Прадпрыемствы, выдзяляючыя дым і шкодныя пары, разьмяшчаюцца ізалявана ад залюдненых месц.

У такім-жа сэнсе вырашаюцца разьмяшчэньні і іншых прамысловых прадпрыемстваў.

Д. Будаўніцтва:

Канцэнтрацыя будаўніцтва павінна выходзіць з эканамічных і санітарна-гігіенічных норм. Жыльлёвае будаўніцтва павінна грунтавацца па прынцыпах рэканструкцыі быту на сацыялістычных пачатках, а таксама павінна быць забясьпечана дастатковай колькасьцю залёных насаджэньняў і выгаднымі шляхамі зносін.

Е. Выгадныя месцы адпачынку:

Прылягаючыя масывы зялёных прастораў і вольныя землі павінны быць скарыстаны для пабудовы дамоў адпачынку, дач і ўтварэньня паркаў і пляцовак для гульняў.

Ж. Эстэтычныя ўмовы і прыгоства:

Павінен быць ўстаноўлен парадак у забудоўцы і прыгостве паасобных грамадзкіх і жыльлёвых будынкаў, устаноўлены прынцыпы ансамблевай забудоўкі пляцоў і асобных кварталаў, пэрспэктывы вуліц, узьбярэжжаў і г. д.

**Аб'ём і зьмест праектаў пляніроўкі.**

43. Праек пляніроўкі складаецца з:
1) агульнага праекту пляніроўкі,
2) дэталёвага праекту пляніроўкі,
3) рабочых чарцяжоў пляніроўкі і забудоўкі.

I. Агульны праект забудоўкі.

44. Агульны праект ахапляе:

а) перапляніроўку існуючай часткі гораду, мястэчка, альбо рабочага пасёлку;

б) пляніроўку I-й чаргі пашырэньня сядзібнай часткі гораду альбо мястэчка;

в) разьмеркаваньне зямель для 1 і 2-й чаргі і наступных чаргоў пашырэньня сядзібнай часткі гораду альбо мястэчка.

г) пашырэньне гарадзкой (местачковай) тэрыторыі і перамяшчэньні гарадзкой мяжы ў адпаведнасьці з чаргамі пашырэньня сядзібнай часткі.

45. На агульным праекце пляніроўкі гораду паказваецца:

А. У межах перапляніроўкі існуючай часткі гораду (мястэчка, рабочага пасёлку):

а) рязьмяшчэньне вуліц, пляцоў і кварталаў гораду, паркаў, садоў, сквэраў, і іншых насаджэньняў, зямель, занятых камунальнымі

пабудовамі і грамадзкімі будынкамі, зямель, прызначаных для пабудовы санаторый, дач, дамоў адпачынку, сельска-гаспадарчых зямель і ужыткаў, пабудовы транспарту, прамысловасьці, вайсковыя пабудовы;

б) разьмеркаваньне гораду па зоны: па агнетрывалаьсці будынкаў, па колькасьці паверхаў, па характару забудоўкі, па шчыльнасьці яе і інш.;

в) разьмяшчэньне раёнаў адміністрацыйнага, жылога, прамысловага і іншых раёнаў, маючых істотнае значэньне у даным горадзе;

г) месца знаходжаньня буйнейшых пабудоў і грамадзкіх будынкаў гораду;

д) разьмяшчэньне асноўных частак пабудоў камунальнага дабрабыту, а іменна: па вадаправоду—раён забору вады, насосных станцый, ачышчальных пабудоў і асноўных майстэрняў сеткі; па каналізацыі—калектараў, месц перакачачных станцый, ачышчальных пабудоў і выпуску сточных вод; па трамваю—галоўных магістраляў і станцый вырабу энэргіі і г. д.;

Б. У межах пашырэньня 2-й і 3-й чаргі сядзібнай часткі гораду (мястэчка, рабочага пасёлку) паказваюцца:

а) магістральныя шляхі зносін з акругай, вуліцы і вузлы руху;

б) вучасткі зямлі, прызначаныя для прамысловых, транспартных, камунальных і іншых буйных будынкаў адпаведнай чаргі;

в) вучасткі зямлі, прызначаныя для жыльлёвага будаўніцтва адпаведнай чаргі;

г) вольныя плошчы для зялёных насаджэньняў і грамадзка-культурнага карыстаньня;

Акрамя таго на агульным праекце пляніроўкі паказваюцца:

а) гарызанталі мясцовасьці;

б) існуючае разьмяшчэньне шляхоў, садзібнай часткі гораду, сяленьняў, прамысловых прадпрыемстваў і інш., якія ўваходзяць у склад гарадзкіх зямель пры пашырэньні гораду.

## II. Дэталёвы праект пляніроўкі.

46. Дэталёвы праект пляніроўкі ахапляе толькі перапляніроўку 1-й чаргі пашырэньня гэтай часткі і служыць для далейшага ўдакладненьняў і парадкаваньня яго паасобных раёнаў, а таксама для вытворчых мэт забудоўкі і дабрабыту гораду, г. зн. для выкананьня праекту ў натуры.

47. На дэталёвым праэкце паказваецца:

а) разьбіўка кварталаў на будаўнічыя вучасткі альбо пляны каляктыўнай забудоўкі кварталаў;

б) чырвоныя лініі кварталу;

в) дакладныя межы і агульныя пляны ўнутранага разьмяшчэньня зялёных насаджэньняў;

г) пляны разьмяшчэньня грамадзкіх будынкаў;

д) дакладныя межы: а) зямель, якія знаходзяцца ў спэцыяльным карыстаньні паасобных ведамстваў, б) зямель, на якіх забараняецца

пабудова і аднаўленьне капітальных будынкаў і разьвядзеньне каштоўных культур з прычыны праектуемага разьвіцьця прамысловых, транспартных, вайсковых і інш. пабудоў;

е) пляны пабудоў камунальнага дабрабыту: вадаправоду, каналізацыі, трамваю, электрыфікацыі і інш.,

ж) тыповыя пляны забудоўкі будаўнічых вучасткаў каляктыўнага і прыватнага карыстаньня;

з) профілі вуліц, праездаў, пляцоў, бульвараў і г. д;

і) нарыс гарадзкой мяжы пры пашырэньні гарадзкой тэрыторыі 1-й чаргі.

## III. Рабочыя чарцяжы.

48. Рабочыя чарцяжы пляніроўкі паасобных кварталаў з будаўнічымі вучасткамі і вучасткаў зялёных насаджэньняў распрацоўваюцца па меры патрэбы і на іх паказваюцца усе даныя, якія патрэбны для перанясеньня праекту ў натуру.

## IV. Зьмест праекту пляніроўкі.

49. Праект пляніроўкі гораду (мястэчка, рабочага пасёлку) складаецца з наступных паасобных праектаў:

*А. Схэма разьвіцьця гораду з паказаньнем на ёй:*

а) пашырэньня гарадзкой тэрыторыі 1, 2, 3 і наступных чаргоў,

б) агульнага нарысу сядзібнай плошчы пры пашырэньні 1, 2, 3 і наступных чаргоў з паказаньнем раёнаў спэцыяльнага прызначэньня (прамысловага, транспартнага, жыльлёвага і г. д.) і магістральных шляхоў унутранай і пазамежнай сувязі.

*Б. Проект агульнай пляніроўкі гораду* з паказаньнем на ім усіх падрабязнасьцяў, паказаных у § 14 гэтай інструкцыі (маштаб 1: 5000).

*В. Плян паасобных вучасткаў гораду* з паказаньнем усіх падрабязнасьцяй, паказаных у § 16 гэтай інструкцыі (маштаб 1:2000).

*Г. Праекты тыповай забудоўкі (маштаб 1:1000 і 1:5000) пры дэталёвым пляне.*

*Д. Схэма функцыянальнага раёнаваньня.*

*Е. Схэма шчыльнасьці засяленьня і павярховасьці забудоўкі.*

*Ж. Схэма зялёных насаджэньняў.*

*З. Схэмы магістральных шляхоў.*

*І. Схэма разьмяшчэньня мерапрыемстваў грамадзкага парадку і назначэньня.*

*К. Тыповае разьмяшчэньне падземных і надземных пабудоў.*

*Л. Паасобныя праекты пляніроўкі садоў і паркаў* грамадзкага прызначэньня.

*М. Паасобныя праекты пляніроўкі садоў гораду.*

Увага: Па п.п. Д,Е,Ж,З,І,К,Л,М *маштабы адвольныя.*

*Н. Тыповыя профілі вуліц і магістраляў—маштаб 1:200.*

*О. Рабочыя чарцяжы (па меры патрэбы)—маштаб 1:500.*

*П. Правілы забудоўкі гораду (мястэчка, рабочага пасёлку)* на зонах і раёнах.

*Р. Паясьняльная запіска.*

Увага: Для вырабу паказаных у гэтым пераліку плянаў скарыстоўваюцца гэдэзычныя пляны, якія складаюцца паводле правіл і інструкцый па складаньню плянаў існуючага разьмяшчэньня, з павялічэньнем альбо зьмяншэньнем у патрэбных выпадках маштабаў мэханічным спосабам.

**Арганізацыя і парадак утвареньня работ па складаньні праектаў пляніроўкі гораду (мястэчка, рабочага пасёлку).**

50. Дагаворы на складаньне праектаў пляніроўкі гарадоў (мястэчак, рабочых пасёлкаў) заключаюцца паміж адпаведнымі гарсаветамі ці РВК—па належнасьці (непасрэдна альбо праз орган камунальнай гаспадаркі) і арганізацыяй, праводзячай пляніроўку.

Дагавор уступе ў сілу пасьля зацьверджаньня яго Народным Камісарыятам Камунальнай Гаспадаркі БССР.

51. Арганізацыя і ўтварэньне работ па складаньню праектаў пляніроўкі ўскладаецца на органы камунальнай гаспадаркі.

У парадку выкананьня гэтых абавязкаў на органы камунальнай гаспадаркі ўскладаюцца:

а) мерапрыемствы па арганізацыі пляніровачных работ у даным горадзе альбо мястэчку,

б) распрацоўка паводле гэтай інструкцыі і праграм эканамічна-тэхнічнага і санітарнага вывучэньня гораду альбо мястэчка,

в) нагляд за дзейнасьцю асоб, якія выконваюць на мясцох эканамічна- тэхнічнае і санітарнае вывучэньне гораду альбо мястэчка і якія распрацоўваюць асноўныя заданьні для праектаў пляніроўкі,

г) разгляд вынікаў эканамічна-тэхнічнага і санітарнага вывучэньня і асноўных заданьняў для праектаў пляніроўкі, узгадненьне гэтых вынікаў з зацікаўленымі ведамствамі, установамі і прадпрыемствамі і падача асноўных заданьняў праз гарсавет (альбо РВК) у Народны Камісарыят Камунальнай Гаспадаркі БССР для зацьверджаньня,

д) разгляд і заключэньне аб агульных праектах гарадоў (мястэчак, рабочых пасёлкаў) і падача іх у гарсавет (альбо РВК па належнасьці) на разгляд і ўзгадненьне.

52. У мэтах плянавагоднай сувязі будаўніцтва з пляніроўкай гораду, мястэчка, рабочага пасёлку, папярэджаньня бязсыстэмных адводаў вучасткаў і вырашэньня іншых пытаньняў, якія зьвязваюць пытаньні будаўніцтва і дабрабыту з пляніроўкай у час выкананьня работ па пляніроўцы (на працягу 1 году) складаюцца праекты частковай забудоўкі і эскізныя праекты пляніроўкі гораду ( мястэчка, рабочага пасёлку).

53. Эскізны праект павінен прадугледзець:

а) напрамак пашырэньня гораду,

б) падзяленьне гораду на раёны: адміністрацыйныя, прамысловыя, жыльлёвыя і інш.,

в) галоўныя шляхі і магістралі да вакзалаў, прыстаняў, адміністрацыйных і прамысловых цэнтраў, з выкананьнем іх адпаведнай шырыні,

г) будаўнічыя раёны існуючай і праектуемай забудоўкі,

д) грамадзкія сады, паркі, бульвары, спартыўныя пляцоўкі і інш.,

е) сельска-гаспадарчы раён і здавальненьне патрэб: лягераў, фэрм, пітомнікаў, санаторый, ачышчальных пабудоў, крыніц вадазабясьпечаньня, палёў абвадненьня і г. д.

54. Праект частковай пляніроўкі зьяўляецца дэталізацыяй пасобнага вучастку гораду або кварталу, прызначанага пад забудоўку першай чаргі.

Частковая пляніроўка павінна прадугледзець:

а) дакладныя контуры вучастку, адвадзімага пад забудоўку (альбо разьбіўку сквэру, парку і інш.),

б) дакладныя напрамкі прылягаючых да вучастку вуліц, праездаў і інш. і іх адпаведную шырыню,

в) разьмяшчэньне пабудоў на вучастку.

55. Пляніровачныя камісіі складаюцца на час выкананьня праекту пляніроўкі для вырашэньня і ўзгадненьня ўсіх пытаньняў як прынцыповага, так і практычнага характару, зьвязаных з пляніроўкай гораду і адводам вучасткаў.

56. У склад пляніровачнай камісіі ўваходзяць прадстаўнікі:

а) адпаведнага аддзелу альбо інспэктарыяту камунальнай гаспадаркі ў колькасьці 2-х чал.,

б) арганізацыі, выконваючай пляніроўку данага гораду (мястэчка, рабочага пасёлку),

в) аддзелу аховы здароўя,

г) чыгункі,

д) пажарнай аховы,

е) ваеннага ведамства,

ж) Наркамзему.

Увага. Прадстаўнік НККГ можа прысутнічаць на пасяджэньнях пляніровачных камісій з правам рашаючага голасу ў кожным горадзе.

57. У парадку руху работ па складаньні пляну гораду (мястэчка, рабочага пасёлку) у НККГ БССР прадстаўляюцца для зацьверджаньня ва ўстаноўленым парадку па належнасьці наступныя адзінкі праекту:

1) асноўныя заданьні,

2) схэматычны (эскізны) праект,

3) агульны (канчатковы) праект.

58. Дэталёвыя праекты пляніроўкі распрацоўваюцца на падставе зацьверджаных агульных праектаў пляніроўкі, разглядаюцца і ўзгадняюцца ў гарадзкіх саветах (ці РВК); пры адсутнасьці адступленьняў

ад зацьверджаных агульных праектаў і адсутнасьці супярэчнасьцяй з боку цэнтральных ведамстваў дэталёвыя праекты канчаткова зацьвярджаюцца Гарсаветам (ці РВК).

Народны Камісар Камунальнай
Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

Ст. Інжынэр-Архітэктар НККГ БССР **Швэдэр.**

20 сьнежня 1931 г.

## 2. Палажэньне пра парадак прадстаўленьня, разгляду і зацьверджаньня праектаў па жыльлёваму камунальнаму і непрамысловаму будаўніцтву.

### I. Агульныя палажэньні.

1. Паводле пастановы Савету Народных Камісараў БССР за 4 лютага 1932 г. № 57, на Народны Камісарыят Камунальнай Гаспадаркі ўскладаецца разгляд і зацьверджаньне праектаў па жыльлёваму, камунальнаму і непрамысловаму будаўніцтву.

2. Усе праекты па памянёнаму будаўніцтву, да ажыцьцяўленьня будаўніцтва па ім, павінны быць зацьверджаны ў паказаным ніжэй парадку.

3. Вызначаемы парадак разгляду і зацьверджаньня праектаў захоўвае поўную адказнасьць праектуемых арганізацый за тэхнічную правільнасьць складаемых імі праектаў.

4. Будуючым і будаўнічым арганізацыям, катэгарычна забараняецца правядзеньне будаўніцтва па незацьверджаных праектах.

5. Кантроль за захоўваньнем гэтай пастановы ўскладаецца на мясцовыя органы камунальнай гаспадаркі.

### II. Кіруючыя пастановы пры разглядзе і зацьверджаньні праектаў.

6. Разгляд праектаў, прадстаўляемых на зацьверджаньне, мае сваёй мэтай праверку і ацэнку праектаў у наступных галінах:

а) агульнай усебаковай адпаведнасьці праектуемага будынку свайму прызначэньню;

б) захаваньня сацыяльна-культурнай устаноўкі;

в) захаваньне прынцыпаў рацыянальнага прэктаваньня;

г) захаваньне тэхнічна-і санітарна-гігіенічных норм;

д) правільнасьць і мэтазгоднасьці разьмяшчэньня будынкаў па вучастку, а таксама захаваньня правільнай сувязі з агульнай пляніроўкай населенага месца;

ж) захаваньне архітэктурна-мастацкага аблічча будынкаў.

### III. Апарат, ажыцьцяўляючы разгляд і зацьверджаньне праектаў.

7. Разгляд і зацьверджаньне праектаў ажыцьцяўляецца праз наступныя органы:

а) навукова-тэхнічны савет НККГ БССР;

б) экспэртныя камісіі пры мясцовых органах камунальнай гаспадаркі.

Увага. Клясіфікацыя праектаў, падлягаючых разгляду і зацьверджаньню па належнасьці Навуковым Саветам альбо экспертнай камісіяй, вызначана далей у гэтым палажэньні.

8. Экспэртныя камісіі зьяўляюцца пэрыядычна дзейнічаючымі органамі пры аддзелах камунальнай гаспадаркі і арганізуюцца на наступных падставах:

а) камісія складаецца з 1—2 прадстаўнікоў органаў камунальнай гаспадаркі, прадстаўніка аддзелу альбо інспэктарыяту Аховы Здароўя, прадстаўніка пажарнай аховы і тэхнічных кансультантаў па меры магчымасьці ў мясцовых умовах і патрэбнасьці па сутнасьці справы;

б) склад камісіі зацьвярджаецца гарсаветам, альбо РВК па належнасьці.

в) старшынёй камісіі зьяўляецца прадстаўнік камунальнага аддзелу.

**IV. Праекты, падлягаючыя зацьверджаньню Навукова-тэхнічным саветам і экспэртнай камісіяй**

10. Разгляду і зацьверджаньню Навукова-Тэхнічным Саветам НККГ падлягаюць наступныя праекты:

а) усе тыповыя праекты, вызначаныя для ўжыцьця ва ўсебеларускім маштабе;

б) жылыя будынкі, незалежна ад сумы будаўніцтва, калі яно вытвараецца не па тыповаму альбо стандартнаму праекту;

в) тэатры, клюбы, кіно, цыркі, стадыёны, незалежна ад сумы будаўніцтва;

г) адміністрацыйна-гандлёвыя будынкі пры суме кошту будынку 50.000 руб. і вышэй;

д) сталоўкі - разьмеркавацелі, фабрыкі - кухні і г. д. пры суме кошту будынку 50.000 руб. і вышэй;

е) усе лекава-прафіляктычныя будынкі, незалежна ад сумы будаўніцтва;

ж) будынкі навучальных устаноў пры суме кошту будынку 100.000 руб. і вышэй;

з) лазьні і пральні, незалежна ад сумы кошту будаўніцтва;

і) складзкія памяшканьні, гаспадарчыя будынкі і г. д. пры суме кошту будаўніцтва 150.000 руб. і вышэй;

к) паркі культуры і адпачынку, гарадзкія сады і сквэры, перапляніроўка і апрацоўка плошчаў, вуліц, узбярэжжаў і г. д., незалежна ад сумы кошту будаўніцтва;

л) вадаправод, каналізацыя, ачыстныя пабудовы, трамвай, пабудовы па электрыфікацыі і цеплафікацыі незалежна ад сумы кошту будаўніцтва.

**V. Праекты, падлягаючыя разгляду і зацьверджаньню мясцовых экспэртных камісій.**

11. Праекты аб'ектаў, пералічаныя ў пунктах „г,“ „д“, „ж“ „і“ і п.10 пры суме кошту будынкаў ніжэй паказанай у гэтых пунктах сумы.

### VI. Склад праектаў, прадстаўляемых на зацьверджаньне.

12. Праекты, прадстаўляемыя на зацьверджаньне, павінны складацца з наступных рысункаў:

А. Для праектаў грамадзянскага будаўніцтва:

а) генэральны плян, выкапіроўка з пляну гораду;
Маштаб: генэральны плян ад 1:500 да 1:1000 пляну;
б) папавярховыя пляны ў маштабе 1:200;
в) 2 фасады ў маштабе ад 1:100 да 1:200.

13. Праекты прадстаўляюцца ў сіньках.

14. Пры праектах павінны быць прадстаўлены наступныя дадаткі і матарыялы:

а) паясьняльная запіска;
б) даведка аб уключэньні аб'екту ў будаўнічую праграму і аб крыніцах фінансаваньня;
в) дэталёвы разьлік кошту будынку па лімітах;
д) графічны матарыял па бурэньню грунту, з паказаньнем скважын на пляне вучастку.

15. Праекты іншых відаў будаўніцтва, пералічаных у пунктах „к“ і „л“ п. 10, прадстаўляюцца паводле палажэньняў для праектаваньня.

16. Усе матарыялы, пералічаныя ў § § 12—15, прадстаўляюцца ў 2-х экзэмплярах, з якіх адзін па зацьверджаньні зварочваецца па належнасьці, а другі застаецца ва ўстанове, утвараючай зацьверджаньне.

17. Усе рысункі, запіскі і інш. павінны быць за належнымі подпісамі адказных асоб.

18. За разгляд і зацьверджаньне бярэцца 5 проц. ад сумы кошту праекту па расцэнках Белдзіпрагара, якая сума ўносіцца адначасова з прадстаўленьнем праекту на зацьверджаньне.

Народны Камісар
Камунальнае Гаспадаркі БССР **Аксючыц.**

Загадчык Жыльлёва-Зямельнага сэктару **Шкурадзе.**

Ст. Інжынэр-Архітэктар **Швэдэр.**

**14 сакавіка 1932 г.**

## АБВЕСТКА

Збор Законаў і Загадаў БССР і Бюлятэнь НК і ЦУ БССР у **1932 г.** будуць рассылацца падпішчыкам па картачнай сыстэме. У выпадку неатрыманьня паасобных нумароў паказаных выданьняў трэба зварочвацца ў мясцовую ўстанову сувязі, бо Кіраўніцтва Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР пасьля перадачы экспэдыраваньня сваіх выданьняў пошце **ніякай адказнасьці за недасылку паасобных нумароў выданьняў не нясе.**

Разам з тым паведамляецца, што кожнаму РВК у 1932 г. будзе высылацца па 13 экз. Збору Законаў і Загадаў БССР і Бюлятэню НК і ЦУ БССР для: 1) адказнага сакратара, 2) інструктара савецкага будаўніцтва, 3) інспэктара снабжэньня, 4) інспэктара аховы здароўя, 5) інспэктара камунальнай гаспадаркі, 6) пажарнага інспэктара, 7) інспэктара дарожнага будаўніцтва, 8) інспэктара працы, 9) земаддзела, 10) фінаддзела, 11) аддзела народнае асьветы, 12) РСІ, 13) плянавай камсіі, а ўсім іншым установам паказанныя выданьні будуць рассылацца непасрэдна.

**Адказны Рэдактар І. Фрыдман.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА БССР. Галоўліт № 412. зак. 280. Тыраж 5800